



# Беларусы сустракаюцца з індзейцамі

## *Цудоўныя навіны: Варламаў, Гойшык, Свечнікаў, Шымановіч*

*(Працяг, пачатак гл. у № 19, 22, 24, 27, 30-34, 36-48, 50-52 (2022); 1-52 (53-104) (2023); 1-33 (105-137) за 2024 г.)*

**ВАРЛАМАЎ Ілья -** у 2024 г. з'явіліся паведамленні, што вядомы расійскі блогер вучыць беларускую мову, а адным са стымулаў з'яўляецца тое, што ён, як паведаміў сам, мае сваякоў у Беларусі, адкуль паходзіць яго бабуля з боку маці.

*"Шаноўныя сябры! Спяшаюся падзяліцца цудоўнай навіной - я вырашыў вывучыць беларускую мову. Па-першае, яна неверагодна прыгожая. Па-другое, у Беларусі на ёй мала хто гаворыць. І я б хацеў прыцягнуць да гэтай мовы ўвагу".*

*"Крызіс сярэдняга ўзросту праходзіць ва ўсіх па-рознаму. Я ледзь не забіўся на ровары і вырашыў вывучыць беларускую мову. Мова - неверагодная, заўсёды яна мне вельмі падабалася і заўсёды хацелася мне яе вывучыць. І вось гэты дзень надышоў".*

У лістападзе 2023 г. у сацсетках можна было знайсці яго абвесткі пра відэаматэрыял, зроблены на Алясцы:



Samuel Demientieff
Fairbanks, AK 99709

January 29, 1991
Gomel

Dear Samuel:

Your letter is an unexpected, but very pleasant message. Thank you very much. I really consider all letters from Indian America as gifts of goodwill and friendship. I am pleased to write to a man of Athabaskan descent.

Your heritage is unique. Three completely different cultures. You are a very rich man, truly. I envy you, but I take pride in my origin too. I am a "full-blooded" Byelorussian, my parents are village-born people and I myself am a villager by birth (the village of Rudakou in the south of our Gomel oblast, 28 years ago). Are your Grandmothers Ingaliks? Do you speak Athabaskan? Do you read in Russian or German?

Demientieff (Dementiev) is a well-known name in the annals of Alaska. I mean Abra(ha)m Dementiev among Chirikov's men. Unfortunately, I have no information on Nikolai Dementiev at present. There are mentions of the Kolmakovsky Redoubt in several available books. Please give me a time to consult some other references. By the way, Richard Pierce, an University historian, Fairbanks, and his colleagues make an index to the large Russian American archieves (probably it will be completed this year). Do you have any contacts with Alaskan researchers?

I need any information on the name of Koserefsky for the village and the city (naming, peculiarities of use, renaming, "micronomes" in Holy Cross, etc.). I was unsuccessful even at the Moscow libraries. Maybe you have a bibliographical list of publications about Koserefsky / Holy Cross. How many Indians are there in the city?

I have read an interesting "fact" in one Polish book. The author, Kuzminski, writes that Ivan Kozerevsky (i.e. Koserefsky) erected a cabin in the vicinity of modern Holy Cross. Then Indians came there and occupied the cabin. It was the beginning of the village. Kuzminski says (1967) there is the Indian village near Holy Cross (on the opposite bank of the Yukon). But there is not any evidence of Kozerevsky's presence in Alaska. I think this is a fiction. He didn't meet Indians.

However, the Athabaskans are the most "Russian" Indians (after the Tlingits). And, of course, we need to know more of Athabaskan-Russian contacts and the Indian life in Alaska since 1867.

Yes, we know of the Alaskan visit to Yakutsk. Our friend, one of the veterans of the BAIS, who works in Yakutia seasonally, says an Indian chief was invited to the Culture Department of the City Soviet and he left some materials.

One other question. Do you consider the Apaches of the Southwest your relatives (maybe distant)? What do you think of them? Are there a Great Dene spirit?

In closing, again thank you for your letter. Please write back and feel free to ask us any questions.

Sincerely, your friend [signature] Ales Simakou

***Letter to Samuel Demientieff (Fairbanks, Alaska) 1991-01-29***




***Envelope from Samuel Demientieff (Tanana Athabaskan) postmark Fairbanks, Alaska 1990-12-20***

*"Православные индейцы, матрешки за 80 баксов и старые русские деревни. Все это я нашёл на Аляске. А ещё пообщался со старообрядцами, узнал, чем отличается штат от Чукотки и какие родственные связи сохранились у коренных народов России и США. Скорее смотрите в моём новом ролике!"*

*"Праваслаўныя індзейцы, матрошкі за 80 баксаў і старыя рускія вёскі. Усё гэта я знайшоў на Алясцы. А яшчэ паразмаўляў са стараверамі, даведаўся, чым ад-*



7/09/91

Svetlana,

This is/was a most wonderful touring exhibit which I was lucky to see several times in Washington, D.C. & in New York City. The collections & cultural work here have inspired a good deal of my continuing interests & research. Are you familiar with this exhibit & its book? I wish you & your group could see both. It is largely through sharings with your great country that this even became possible! You see, we have so much to look forward to. We share so many common & special interests.

Please let me know how I can help the BAIS "Indianists." I am very honored that you have asked me to be a member of your BAIS, & I accept the generous invitation. Thank you!

Thank you also for sending me the lovely brochure of Vladimir Korotkevich. I am not familiar with his books, but I would like to see them & read them. I will ask my library to try to get them.

In friendship & respect, Barrie

Credits:

*Crossroads of Continents* was organized by the National Museum of Natural History of the Smithsonian Institution and the Institute of Ethnography, Academy of Sciences of the U.S.S.R., under the auspices of the U.S.-U.S.S.R. Commissions on the Humanities and Social Sciences of the American Council of Learned Societies and the Academy of Sciences of the U.S.S.R., administered and funded by the International Research & Exchanges Board (IREX). The Commissions' work is supported in part by grants to IREX from the John D. and Catherine T. MacArthur Foundation, the National Endowment for the Humanities, the Trust for Mutual Understanding, and the United States Department of State.

Support for this exhibition has been provided by the Smithsonian Special Exhibition Fund, the James Smithson Society, the Smithsonian Educational Outreach Program, and by Federally appropriated funds for the National Museum of Natural History.

The national and international tours of the exhibition have been organized by the Smithsonian Institution Traveling Exhibition Service (SITES) in cooperation with the Scientific Council on Exhibitions, Academy of Sciences of the U.S.S.R., and with major support from the Museum of History and Industry at the Seattle Center, Seattle; the American Museum of Natural History, New York; the Indiana State Museum, Indianapolis; the Anchorage Museum of History and Art, Anchorage; and the Canadian Museum of Civilization, Ottawa.

Transportation for the exhibition to the Soviet Union is provided courtesy of Pan American World Airways.

Design: Staples & Charles, Washington, D.C.

НА СТЫКЕ КОНТИНЕНТОВ
Культуры Сибири и Аляски

Cultures of Siberia and Alaska
CROSSROADS OF CONTINENTS

***Letter from Barrie Kavasch 1991-07-09 (Crossroads of Continents: Cultures of Siberia and Alaska. На стыке континентов: культуры Сибири и Аляски. US-USSR exhibit)***



community concerns. The richness of the Eskimo winter ceremonial cycle and the solemnity of a Tlingit funeral and a Koryak burial are seen in costumes, masks, dance wands, and other objects.

*Crossroads of Continents* concludes with a film by Soviet and American filmmakers presenting a contemporary perspective on the lives of Siberians and Alaskans in the 20th century, focusing on the strength of enduring traditions and on political, cultural, and economic aspects of modernization.

It is hoped that the extraordinary cooperation and collaboration between Soviet and American scientists represented in *Crossroads of Continents* will encourage joint research in many areas of benefit to the world's peoples.

Accompanying Publication:

*Crossroads of Continents: Cultures of Siberia and Alaska*, by William W. Fitzhugh and Aron Crowell, published by Smithsonian Institution Press, Washington, D.C., 1988. 360 pages, 375 color and 125 black and white illustrations, $45.00 cloth, $24.95 paper. Available in the Natural History Museum Shops or by writing the Smithsonian Institution Press, Dept. 900, Blue Ridge Summit, PA 17294.

*above:* Amur River Fish Skin Coat, AMNH; Bering Sea Eskimo Seal Harpoon, NMNH; North Alaskan Eskimo Walrus-Man, NMNH

*left:* Tlingit War Helmet, MAE; Even Group, AMNH

7

***Заўвагі Бары Каваш на буклеце выставы "Перакрыжаванні кантынентаў: культуры Сібіры і Амерыкі"***

*розніваецца штат ад Чукоткі і якія сваяцкія [родственные] сувязі захаваліся ў карэнных народаў Расіі і ЗША. Хутчэй за глядзіце ў маім новым роліку!"*

*"Orthodox Indians, nesting dolls for 80 bucks and old Russian villages. I found all this in Alaska. I also talked with the Old Believers, learned how the state differs from Chukotka and what kind of family ties have been preserved among the indigenous peoples of Russia and the USA. Hurry up and watch my new video!"*

Аляска: православные индейцы и наследие России | Русские школы и староверы в США: https://youtu.be/1ZRZBTj8z4k.

**Літ.:**

*6787 На стыке Чукотки и Аляски / ред. кол.: В. П. Алексеев (отв. секр.), Т. И. Алексеева, С. А. Арутюнов, И. С. Гурвич / АН СССР, Ин-т этнографии им. Н. Н. Миклухо-Маклая. М., 1983.*

*8621 Соколов С. Славяне и Америка: в нашей истории много общего // Гомельская праўда. 2010. 5 авг. (Индейцы, Судзиловский, Герман, Хрдличка.)*

*8094 Руссель Н. Житие преосвященного Владимира, бывшего епископа Алеутского и Аляскинского, ныне викарного епископа Воронежского. М., 1895.*

*9496 Окладников А. П. Васильевский Р. С. По Аляске и Алеутским островам. Новосибирск, 1976.*

*3634 Валеричев С. Аляска вступает в СССР или Кошмарная ночь в Белом доме // Мы и время. 1992. Сент. № 19. С. 16.*

*2926 Егорычев В. Как продали Аляску // Гомельская праўда. 1995. 20 июня.*

**ГОЙШЫК Аляксандр** (2) (Aliaksandr Goishyk, Goishik) - у адным аглядзе вопыт гэтага члена нашага "клуба падарожнікаў" БСІ выкарыстаны для парад наконт эканомнага падарожжа - на прыкладзе "ТОП-7" краін з катэгорыі бязвізавых; рэдакцыя з імем задорнай птушкі падышла *"з рандомнай суб'ектыўнасцю: недзе звяртала ўвагу на экзатычнасць, недзе, наадварот, чаплялася за відавочны варыянт, а недзе шукала экзатычнае ў відавочным"*. У гэтым матэрыяле, у прыватнасці, Гойшык тлумачыць, *"якую нацыю сапраўды трэба называць бульбашамі"*.




***Envelope from Survival International postmark London 2005-04-22***

Амерыканскія прыклады - з Аргенціны, Перу і Бразіліі.

*"Лепш за ўсё транзітам праз Турцыю ляцець у Панаму: гэта самы вялікі ў рэгіёне хаб, адкуль можна шукаць прымальныя варыянты ў краіны, якія вас цікавяць. Самы буйны лаўкостар у Лацінскай Амерыцы, прыкладна адпаведны еўрапейскаму Ryanair - Latam Airlines".*

Гойшык: *"Для пакупкі танных квіткоў я карыстаюся сервісам skyscanner. Па-першае, можна знайсці прывабныя варыянты. Па-другое, можна адштурхоўвацца не ад пэўнага аэрапорта, а ад патрэбнай краіны. Па-трэцяе, квіткі глядзіш не на пэўную дату, а выбіраеш найлепшы варыянт на працягу месяца. Мой рэкорд: палёт са Швейцарыі ў Мексіку і назад за 400 долараў".*

**АРГЕНЦІНА**

Тут *"абавязкова скарыстайцеся недарагімі пералётамі па Лацінскай Амерыцы і адпраўцеся з Буэнас-Айрэса ў Ушуаю - самы паўднёвы горад на свеце (!), а таксама сталіцу Вогненнай Зямлі - самага маладога рэгіёна Аргентыны.*

*І тут вас чакае самае цікавае - падарожжа па Аргентынскай Патагоніі (ёсць яшчэ з чылійскага боку). Гэта і знакамітая дарога сямі азёраў з выдатнымі краявідамі (так званая Швейцарыя Лацінскай Амерыкі), і Парк ледавікоў, дзе знаходзіцца самы вялікі ледавік Паўднёвай Амерыкі, і шмат чаго цікавага.*

*На што звярнуць увагу. Акрамя атрымання асалоды ад выдатных краявідаў, у Аргентыне вас чакае і*








***Survival International (postmark s.d. Basel, Zurich, Switzerland) received 2005-11-22***

*асалода фізічная. Вандроўка па краіне - суцэльны гастратур, дзе вы зможаце пачаставацца выдатнымі сырамі, смачнымі вінамі, і, безумоўна, знакамітым асада - лацінаамерыканскім барбекю: запякаць мяса на вуглях - гэта значная частка нацыянальнай свядомасці".*

**ПЕРУ**

*"Як бы вас ні ўразіла Патагонія, у Перу знаходзяцца топавыя турыстычныя месцы. Мачу-Пікчу, Горы сямі колераў (яны ж Вясёлкавыя горы), каньён Колка - гэта ўсё абсалютны must see. Добраму настрою спрыяе і тое, што перасоўвацца па краіне даволі бюджэтна. А калі даберацеся да возера Тытыкака [Ціцікака], у вас увогуле зойме мову: вы трапіце ў індзейскую рэзервацыю (Перу ўвогуле краіна індзейцаў інкаў). Вядома, сёння гэта больш турыстычная атракцыя, але на свае вочы пабачыць плывучыя штучныя астравы, зробленыя з трыснягу - гэта таго варта. Нават нягледзячы на тое, што ў чоўнах, у якіх вы будзеце катацца і якія таксама зробленыя з трыснягу, будуць стаяць бензінавыя рухавікі.*

*На што звярнуць увагу. Перу - краіна, дзе не трэба баяцца замаўляць турыстычныя паслугі: яны там танныя і пры гэтым якасныя. Усяго за 20 мясцовых соляў (каля 5 долараў), вас забяруць з гатэля і давязуць да лодкі, правядуць добрую экскурсійную праграму з "песнямі-танцамі".*

*Беларусу яшчэ варта пабываць у Перу, каб зразумець, што не тую нацыю назвалі "бульбашамі". У мясцовых жыхароў нават ёсць прымаўка: Soy mas Peruano que la papa ("Я - большы перуанец, чым бульба"). У гэтай краіне афіцыйна выведзена больш за 4000 гатункаў бульбы, нават у самай простай краме вы іх знойдзеце не менш за 15-20".*

Гойшык: *"У Перу танныя не толькі перасоўванні і экскурсіі, але і жыллё. Вядома, ёсць і дарагія гатэлі,*

**…РОДНАЯ ПАНАРАМА**

ПАДРЫХТАВАНА ПА МАТЭРЫЯЛАХ ТАСС І АДН

**ПРАБЛЕМЫ ЭКАЛОГІІ**



Чалавецтва павінна прыняць неадкладныя меры да таго, каб не дапусціць сусветнай экалагічнай катастрофы ў выніку змянення клімату на нашай планеце.

Глабальнае пацяпленне атмасферы — самая сур'ёзная праблема, з якой калі-небудзь сутыкалася чалавецтва,— можа прывесці да павышэння ўзроўню Сусветнага акіяна на адзін метр. Гэта ў сваю чаргу прывядзе да катастрафічных для чалавецтва вынікаў. Праблема азонавага слою набыла сёння таксама сапраўды глабальныя маштабы. Неабвержна даказана, што шырокае прымяненне ў прамысловасці хімічных злучэнняў, у прыватнасці, фрэонаў — вядзе да памяншэння і без таго тонкага азонавага фільтра, які ахоўвае жыццё на планеце ад ультрафіялетавага выпраменьвання сонца. Скарачэнне ўтрымання азону ўсяго на адзін працэнт цягне за сабой рост колькасці захворванняў ракам скуры на 4 працэнты. Аднак, нягледзячы на папярэджанні вучоных, урады пакуль больш гавораць, чым прымаюць канкрэтныя меры; аб'ём выкіду ў атмасферу вуглякіслага газу не змяншаецца, а павялічваецца, а павышэнне яго канцэнтрацыі з'яўляецца адной з галоўных прычын пацяплення клімату.

Па-ранейшаму катастрафічна хутка знішчаюцца лясы Амазоніі — лёгкія нашай планеты: за два апошнія месяцы лета ў джунглях Амазонкі было зарэгістравана ўзнікненне 59 тысяч ачагоў пажараў, у выніку якіх знішчаны лясы на плошчы 33 тысяч квадратных кіламетраў, што перавышае тэрыторыю ўсёй Бельгіі. Гэтыя даныя прыведзены бразільскім інстытутам касмічнай дзейнасці, які каардынуе ажыццяўленне праекта па выяўленню пажараў з дапамогай аналізу даных метэаспадарожнікаў. Паводле падлікаў спецыялістаў, амаль палова ўзгаранняў адбылася ў раёнах масавых высечак лесу. З-за адсутнасці адпаведных заканадаўчых палажэнняў сяляне працягваюць пашыраць свае пасяўныя плошчы шляхам выпальвання ўчасткаў лесу з чэрвеня па кастрычнік.

Сярод першаступенных мерапрыемстваў, якія прапануюцца вучонымі, — увядзенне праз пяць гадоў поўнай забароны на хімікаты, якія разбураюць азонавы слой, рэзкае скарачэнне выкіду ў атмасферу вуглякіслага газу.

НА ЗДЫМКАХ: месца пражывання індзейскіх плямёнаў Амазоніі знаходзіцца пад пагрозай знішчэння. «Парніковы эфект», яго прычына — гэта выкід у атмасферу вуглякіслага газу.

Фотахроніка ТАСС.




***Чалавецтва павінна… Mankind must… (article in the newspaper Chyrvonaia zmena (Minsk) 1989-10-14, TASS photo chronicle)***

*але пры жаданні нават у такім турыстычным горадзе як Куска (неафіцыйная сталіца Інкскай імперыі) можна знайсці начлег за 5 долараў. Так, гэта агульны пакой, але вы зможаце прыняць душ, і ў вас будзе інтэрнэт".*

**БРАЗІЛІЯ**

*"Што паглядзець. Калі ў вас запланавана не вельмі доўгае падарожжа па Лацінскай Амерыцы (асабліва, калі вы хочаце пабываць у некалькіх краінах), улічвайце, што Бразілія - неверагодна вялікая і абсалютна розная. Калі ў вас мара, як у Астапа Бэндэра, то вам больш падыдзе паўднёвая частка, дзе ёсць Рыа-дэ-Жанейра, Сан-Паўлу, шмат нацыянальных паркаў. Таксама раім наведаць вадаспад Ігуасу (ён складаецца з больш 200 розных вадаспадаў і знаходзіцца на мяжы дзвюх краінаў - Бразіліі і Аргентыны, але менавіта з бразільскага боку самыя прыгожыя краявіды.*

*Калі вы любіце вандраваць па вадзе, то вам лепш у паўночную Бразілію. Тур па легендарнай Амазонцы - будзе пра што расказаць унукам.*

*На што звярнуць увагу. Калі вы спыніце выбар на паўночным варыянце, майце на ўвазе, што паромы ў тых мясцінах - фактычна адзіны від грамадскага транспарту. А дзе манаполія - там высокія кошты".*

Гойшык: *"Каб вандраваць па Лацінскай Аме-*





СОВЕТСКАЯ

...й информации

Человечество должно принять безотлагательные меры к тому, чтобы не допустить всемирной экологической катастрофы.

Глобальное потепление атмосферы может привести к повышению уровня Мирового океана. Однако, несмотря на предупреждения ученых, правительства пока больше говорят, чем принимают конкретные меры.

По-прежнему катастрофически быстро уничтожаются леса Амазонии — легких нашей планеты. За два последних месяца лета уничтожены леса на площади, превышающей территорию всей Бельгии. По подсчетам специалистов, почти половина возгораний произошла в районах массовых вырубок. В отсутствие соответствующих законодательных положений продолжается расширение посевных площадей путем выжигания участков леса.

НА СНИМКАХ: индейцы племен Амазонии, среда обитания которых находится под угрозой уничтожения; схема возникновения «парникового эффекта» вследствие выброса в атмосферу углекислого газа.

Фотохроника ТАСС.



***Человечество должно… (publication in the newspaper Sovetskaia Belorussiia 1989-10-14, also in Selskaia gazeta 1989-10-17). Photo of an Amazonian tribal mother and child***

*рыцы, пажадана добра ведаць ангельскую мову і хацяб трошкі - гішпанскую. Гэта патрэбна, каб не пераплочваць так званы "падатак на грынга": калі ўбачаць, што вам складана размаўляць, амаль на ўсё будуць даваць павышаны прайс".*

**Літ.: (бульба)**

*3954 Адамович А. Записные книжки разных лет / публ. В. С. Адамович и Н. А. Шувагиной-Адамович // Неман. 1998. № 1. С. 3-79.*

*392 Блоцкая Ж. В. Вирусы картофеля. Мн., 1989.*

*4407 Бульба: популярный энциклопедический справочник по биологии, возделыванию, хранению и использованию картофеля в кулинарии / сост. Е. В. Малашкевич; науч. ред-ры Е. К. Знак и др. Мн., 1994.*

*2218 Бульба: энциклопедический справочник по выращиванию, хранению, переработке и использованию картофеля / редкол.: И. П. Шамякин (гл. ред.) и др.; худ. В. Г. Загородний. Мн., 1988.*

*9233 250 блюд из картофеля. Мн., 1973.*

*6365 Земляные яблоки / материал подг. Ф. Марков, агроном, г. Могилев // Домашняя газета "Толока". 2001. 18 окт.- 14 нояб. С. 7.*

*1346 Иванченко В. М. О нашем втором хлебе. Мн., 1983.*

*2443 Карабанов И. А. Живая книга природы. Мн., 1985.*

*5712 Касперович Э. "Картофель-83" // Неман. 1984. № 2. С. 173-175.*

*2693 Кононенко В. П. Парадоксы видео. Мн., 1988.*

*3753 Куц Н. От "картофельных бунтов" - и бульбяному изобилию // 7 дней. 1998. 22 авг. С. 11.*

*1531 Лекарства из картофеля (Гавана) // Знамя юности. 1988. 13 июля.*

*4563 Маргайлик Е. Г. Индейские земляные яблоки: Все любят "папу"... потому что "папа" - это картофель / материалы подг. под рук. И. И. Бусько и М. И. Юхневич // Хозяин. 1998. № 12. С. 10.*

*3818 Масны М. М. Бульба: біяхімія і якасць. Мн., 1990.*

*4645 Паўлюкоў В. Яшчэ раз пра бульбу // Родная прырода. 1998. № 1. С. 29*

*338 Пахвальнае слова бульбе // Звязда. 1991. 25 ліп.*

*3312 Прышэлец у мундзіры // Чырвоная змена.* 1996. 17 верас.

*8203 Справочник картофелевода / под ред. Н. А. Дорожкина, З. А. Дмитриевой и Н. А. Гончарова. Мн., 1977.*

*2103 Целебный картофель // Сельская газета. 1988. 16 июля.*

*2106 Ці ведаеце вы, што... / сабраў А. Гук / / Звязда на меліярацыі Палесся. 1986. 18 кастр.*

*2111 Ціхановіч А. Наша бульба // Звязда. 1982. 3 кастр.*

*3505 14 тысяч лет назад ему радовались индейцы. Теперь радуемся мы / полосу подг. Е. Дубинская // Советская Белоруссия. 1997. 29 нояб. С. 15.*

*9235 12821 Bolotnikowa W. A., Wapielnik L. M. 500 potraw z ziemniakow. Wyd. 2. Warszawa, 1985. (Пер. з беларускага рускамоўнага выдання; Бібліятэка БІТ, наб. 2013-07-02.)*





**СВЕЧНІКАЎ Раман** (3) - у кнізе Ромы няшмат пра індзейцаў, але яго балівійскія (як і аляскінскія) уражанні мы адносім да нашай тэмы.

*Раман Свечнікаў*

**РОМА ЕДЗЕ ПА БАЛІВІІ**

**Зомбі**

Да мяжы з Балівіяй мы падбіраемся позна ўначы. Стаіць сабачы холад. Вецер падымае ў паветра сумесь пяску з пластыкавым смеццем, якое кучамі ляжыць паабапал дарогі. Бесперапынная плынь чаўнакоў у пухавіках цягне праз мяжу на ручных каталках мяхі з бульбай, скрыні з півам ды іншыя прадметы першай неабходнасці. Усё гэта падсвятляецца велізарнымі пражэктарамі з нясцерпна яркім халодным святлом. Такое адчуванне, быццам мы апынуліся на здымачнай пляцоўцы і хтосьці нябачны здымае кіно пра Манголію пасярод Паўднёвай Амерыкі.

На шляху да памежнага пункта дзіўны мужык у ваеннай форме накідваецца на нас і цягне да сябе ў камору для праверкі змесціва заплечнікаў. Усё занадта кінематаграфічна, таму мы не супраціўляемся.

У малым пакойчыку вельмі цёпла. Дзве каржакаватыя зашмальцаваныя істоты просяць нас адкрыць заплечнікі. Мы хутка дэманструем увесь наш няхітры скарб і, на просьбу працаўнікоў пераходу, яшчэ некалькі хвілін апантана жанглюем булавамі на развітанне. Нам хутка штампуюць пашпарты, і мы перш за ўсё адпраўляемся на пошукі абменніка. Высвятляецца, што ён ёсць толькі на перуанскім баку. Рабіць няма чаго, насуперак усім мясцовым законам мы куляй ляцім назад на перуанскія землі, дзе зліваем свае апошнія солі.

Пры мінімальным жаданні практычна любую мяжу Паўднёвай Амерыкі можна перайсці нелегальна. Для гэтага нават не спатрэбіцца ахвярна цягнуцца праз горы, можна проста наскрозь прайсці памежны пераход, ні разу не паказаўшы пашпарт.

Адразу за пераходам нас сустракае зомбі-армія балівійскіх таксістаў. Мы праломваем павуціннe іхніх рук і па галовах караскаемся да выратавальнага латка, дзе захутаная ў швэдар шчакастая жанчына гатуе дэшманскія бургеры. Мы такія галодныя, што бяром адразу пяць штук.

Пакуль я раблю заказ, да Волі падыходзіць ахайнага выгляду перуанец і па-англійску цікавіцца, ці не жадаем мы ўзяць таксоўку да Ля-Паса [Ла-Пас, La Paz] ускладчыну. Воля ветліва адказвае, што таксі для нас - занадта дарагі сродак перасоўвання, і мужык адвальвае. Але не паспяваем мы затачыць першы бургер, як ён вяртаецца і кажа, што вельмі спяшаецца і гатовы падкінуць нас да горада за добрую гутарку. Рабіць няма чаго, мы скачам у дабітую белую таёту-ўніверсал, а ў багажнік нашага аўтамабіля запаўзае гіганцкая балівійка ў нацыянальным строі.

Высвятляецца, што наш добры спадарожнік - фізік-радыёлаг. У Ля-Пасе ў яго свая медыцынская клініка, у якой ён лечыць рак. Запас англійскіх словаў у яго хутка вычэрпваецца, так што да самага горада я лаўлю толькі абрыўкі іспанскіх фраз і мірна даядаю цётчыны бургеры. Потым Воля раскажа мне, што яны размаўлялі ў асноўным пра дзівакаватага прэзідэнта Балівіі ды мясцовае здабыванне газу - і тое, і другое ўжо шмат гадоў не робіць краіну багацейшаю.

Тым часам кіроўца залятае ў Ля-Пас - напэўна, самы жывы горад Балівіі. Праз чатыры чырвоныя святлафоры і корак з людзей на гарадскім рынку мы трапляем у цэнтр горада. Фізік застаецца задаволены гутаркай, мы абменьваемся мэйламі і выходзім з таксоўкі.

**88 °C**

Ля-Пас нам адразу падабаецца. На вуліцах пануе поўная блытаніна. Проста з тратуараў гандляры прадаюць усялякі дапатопны хлам. Людзі ў офісных касцюмах упярэмешку з горцамі ў нацыянальных строях сноўдаюць па вузкіх артэрыях горада. Правілы дарожнага руху спрэс ігнаруюцца ўсімі ўдзельнікамі. Грамадскі транспарт прад-




***Envelope from Survival International postmark London 1995-09-06***




***Envelope from Amnesty International (London) postmark Gomel 1995-12-09***

To: amaru102@hotmail.com
Created: 19 августа 2004 г., 06:22:40 (Thu, 19 Aug 2004

Dear Friends,

Are you Western Hemisphere Natives living in Europe or those in Bolivia?

We are very much interested in Bolivian Native representation in Belarus. There were many Native students from Bolivia in Belarus in 1980s, but presently it is hard to find someone here.

We would also like to get more information about your group in both Spanish and English.

Thank you = dziakui.

Sincerely,

Ales Simakou
Belaruska - indzeiskae tavarystva =
Belarusian - American Indian Society
Asociacion Bielorruso-India

***E-mail of 2004-08-19 to a Bolivian group***

стаўлены старымі аўтобусамі маркі Dodge, якія маглі б пацягацца па старажытнасці з чароўным аўтобусам на Алясцы. На вуліцах можна сустрэць людзей, што сядзяць за механічнымі друкавальнымі машынкамі - яны аказваюць паслугі набору тэксту. Архітэктура горада - мікс з будынкаў у стылі барока, сацыялістычнага мадэрну і бессістэмнай індзейскай забудовы. Вада ў Ля-Пасе кіпіць пры тэмпературы 88 °C. Карацей, месца што трэба!

Мы хутка прабіваем, дзе самы небяспечны раён горада, і накіроўваемся наўпрост у гэтае пекла ў надзеі зняць максімальна танны гатэль. Але на шляху нам трапляецца сімпатычны грынга-хостэл, і мы паддаёмся на гэтую правакацыю. Сёння будзем плёскацца ў гарачай вадзе, спаць на чыстых прасцінах і карыстацца інтэрнэтам.

Ля-Пас - выдатная дзіра, тут сапраўды можна добра павесяліцца. Але мы так нажэрліся пылу, пакуль дабіраліся да гэтага горада, што выходзіць на паўнавартаснае паляванне ўжо няма сілаў. Дробнымі перабежкамі па горадзе мы сёрбаем каву ў кавяраньках і перакусваем у злачнях.

Наступнай раніцай сядлаем аўтобус да горада Патасі [Potosi] - дзякуй богу, аўтобусы тут самыя танныя на свеце. Балівійскі грамадскі транспарт - ужо звыклы кавалак лайна: у салоне нясцерпна смярдзіць нямытымі целамі, проста ў праходзе наваленая гара сумак, з усіх шчылін свішча вецер, і на радасць шаноўнай публіцы недзе на апошніх шэрагах упарта галосіць немаўля. Начная паездка абяцае быць разухабістай. Мы хаваемся ў навушнікі і спальнікі. Воля ўтыкаецца мне ў падпаху і хутка адрубаецца. А мне "шанцуе" - я не ўмею спаць седзячы.

***"Індзейцы вачыма беларусаў" - зборнік тэкстаў пра індзейцаў… з твораў беларусаў і ўраджэнцаў Беларусі. Аргдакумент БІТ оа4 (фармат А4) 4006 1988-04-13. Код оа4, packed пададзены лацініцай (г.зн. оа4-4006), дазваляе знаходзіць той жа дакумент са спробай яго адаптацыі / перакладу для лепшага разумення іншаземцамі***

**Беларускія даляры**

У Патасі ўязджаем на світанні. Стаіць знаёмы горным жыхарам ранішні дубак. Мы знаходзім адзіную адкрытую забягалаўку на вакзале і бяром па кубку цёплай кавы.

Патасі - адзін з самых высакагорных гарадоў планеты і калісьці даўно, дзякуючы гіганцкаму радовішчу срэбра, адзін з самых багатых. Іспанцы ў свой час вывезлі адсюль столькі каштоўнага металу, што гэта вырашыла ўсе іхнія фінансавыя праблемы на пару сотняў гадоў наперад. Можна сказаць, што акурат дзякуючы гэтаму гораду ім удалося пабудаваць такую магутную імперыю. Сляды былой славы Патасі бачныя няўзброеным вокам - неверагодная колькасць прыгожых касцёлаў, велізарныя багатыя дамы, манетны двор і пустыя шахты куды ні паглядзі.

Кідаем косткі ў нейкай таннай дзірцы з адным душам на паверх. Зусім недалёка пралягае чыгунка, і мы тут жа адпраўляемся на разведку. У нашых галовах даўно цепліцца ідэя пракаціцца па Балівіі на таварняку. Але, на жаль, вузлавая станцыя самага магутнага мясцовага горада Новага часу выглядае горш, чым вакзал у Асіповічах. Усяго адна лінія рэек і дзве кішэні-адстойнікі. Калі верыць раскладу, разы два на тыдзень адсюль адпраўляецца пасажырскі цягнік, таварнякі ходзяць яшчэ радзей. Вырашаем не чакаць ля мора пагоды.

Праз дзень мы ўжо рвём спынам да самага вялікага саланчака на свеце. Аўтаспын у Балівіі дастаткова прыемны: машын мала, таму спыняюцца ўсе. Акрамя таго, спынам да патрэбнай кропкі ты дабярэшся гарантавана хутчэй, чым на аўтобусе, які высаджвае пасажыраў ля кожнага слупа. Мы нясёмся праз горную пустыню, якая так моцна нагадвае Манголію, што ў галаве ўсплываюць








*52o Congreso Internacional de Americanistas. 52nd International Congress of Americanists. Sevilla, Espana 2006. Programa Oficial. Taken at CESLA (Centrum Studiow Latynoamerykanskich), University of Warsaw*

недарэчныя рэшткі мангольскай мовы: "Би бууз хосч байна!" ("Я хачу пельменяў!").

У кузаве пікапа вельмі холадна, таму на хаду мы прафесійна ўхутваемся ў цёплую вопратку. Усю дарогу едзем паўз шахты. Кіроўца раз-пораз падбірае новых людзей.

Ва Уюні [Uyuni], гарадок на краі салёнай пустыні, мы ўязджаем у складзе атрада мясцовай дзетвары. Калі машына спыняецца, малыя бягуць расплачвацца за праезд. Мы разумеем, што калі цяпер дамо кіроўцу грошай, начаваць давядзецца пад зоркамі. Воля спрабуе растлумачыць яму, што мы вельмі бедныя грынгас, але нічога не выходзіць. Тады я прасоўваю мужыку сто беларускіх рублёў з тых, што важу ў гаманцы на сувеніры:

- Гэта беларускія даляры! - упэўнена кажу я.

- Ого! Ніколі такіх не бачыў, - кіроўца круціць купюру ў руках. - А колькі гэта?

- Ну-у, - раблю выгляд, быццам прыкідваю ў галаве. - Як пятнаццаць амерыканскіх. Прыкладна.

- Няхай. Пойдзе.

Мы развітваемся з кіроўцам і бадзёра тупаем у горад. Высвятляецца, што Уюні складаецца ўсяго з трох вуліц і рабіць тут шчыра няма чаго. Мы селімся ў гатэлі-будоўлі за чатыры даляры за ноч. Ва ўстанове няма душа, затое ёсць стол, за які я сядаю дапісваць свой перуанскі тэкст. У перапынках паміж выкладаннем той ці іншай думкі я бегаю на вугал хаты па цёплы сакавіты бургер - як ні дзіўна, бургеры тут самая папулярная і танная вулічная ежа.

**Соль і кэш**

Увесь наступны дзень мы з Воляй пешшу цягнемся па пустыні. Соль хрумсціць пад нагамі, нібыта снег. Вочы стамляюцца ад марыва. Каля нас часта праязджаюць джыпы, набітыя турыстамі. Недзе там, далёка, маячаць гатэлі, пабудаваныя з саляных цаглін. Мы наварочваем кіламетраў дваццаць і да захаду сонца, знясіленыя, выпаўзаем на дарогу. Нас падбірае цягач, гружаны мяшкамі з соллю.

Мне складана апісаць сваё стаўленне да балівійцаў, але я востра адчуваю розніцу ў нашай сутнасці. Яны людзі пустыні, людзі гор, і ў іхнай лёгкай хадзе па бязмежных узгорках адгадваецца векавая натуральнасць. Яны быццам кіты - займаюць сабой шмат месца і ўпэўнена, ва ўласным стройным рытме, працуюць хвастамі. Яны не баяцца нападу з засады, у пустыні няма каму і няма дзе хавацца. Тут бессэнсоўна будаваць агароджы - бяры столькі зямлі, колькі табе трэба. А я хаджу па пустыні і не магу прысесці адпачыць, пакуль не заўважаю выратавальную кучу смецця, пакінутую турыстамі, - хоць бы нейкае "каля".

Наступнай ноччу мы сядаем на цягнік, які адвозіць нас да аргентынскай [аргенцінскай] мяжы.

На пагрузцы багажу знаёмімся з парай пажылых канадцаў, якія на роварах прыехалі сюды з Куска. Ім абоім за пяцьдзясят, і яны ганяюць на сваіх чатырох колах па гарах інкаў. Гэтыя двое на секунду ўсяляюць у мяне надзею, таму што, шчыра кажучы, я пабойваюся, што да іхняга ўзросту мне зробіцца сумнавата. Старыя абвальваюцца на нас штормам апавяданняў пра сваю дарогу праз горныя перавалы. Мяне так разбівае іхні шчыры агонь, што я са сваім багажом нават не ведаю, пра што распавесці.

Раніцай прыбываем у памежны горад і селімся разам са старымі ў хостэл. Мне трэба тэрмінова выслаць матэрыялы ў рэдакцыю, але высвятляецца, што ў горадзе забастоўка - мэр за чатыры гады так і не правёў сюды добрай пітной вады, таму крамы, тэлефоны ды інтэрнэт не працуюць. Да ўсяго іншага даведваемся, што ў мястэчку няма аргентынскай амбасады, таму доўга не разважаем і адразу стартуем у суседні населены пункт - Тарыха, што ляжыць прыкладна за дзвесце кіламетраў на ўсход.





Entry Date: 8/24/88
Last Name: Frantz First Name: Don
Address: 4401 University Dr.
University of Lethbridge
City: Lethbridge State or country: Alberta, CANADA
Zip Code: T1K 3M4
Department: of Native Am Studies
First Telephone #: 403 329-2238 Alt. Telephone #:
Areas of Expertise: linguistics, especially Blackfoot language and lexicon.
Reviewer Number: 122

***From a database of Indian studies in USA and Canada: Frantz, Don (University of Lethbridge)***

Entry Date: 8/26/88
Last Name: Littlebear First Name: Leroy
Address: Native American Studies
University of Lethbridge
City: Lethbridge State or country: Alberta CANADA
Zip Code: T1K 3M4
Department: of Native Am Studies, Univ., of Lethbridge
First Telephone #: 403 329 2635 Alt. Telephone #:
Areas of Expertise: law and political science.
Reviewer Number: 246

***Littlebear, Leroy (University of Lethbridge), one of the 52 researchers from the Los Angeles database we wrote to (during our 1993-1996 Vygodskys campaign)***

Entry Date: 9/10/91
Last Name: Marule First Name: Smallface
Address: 237 Laval Blvd.
City: Lethbridge State or country: Alberta CANADA
Zip Code: T1K 4E2
Department: Native Am Studies Dept., Univ., of Lethbridge, at Lethbridge
First Telephone #: 403/381-7623 Alt. Telephone #: 329-2638
Areas of Expertise: Native Am studies, Canadian Indian politics, international indigenous issues, Blackfoot/Blood, nationalism.
Reviewer Number: 258

***Marule, Smallface (University of Lethbridge)***

**Літ.:**

*8620 Ростиков Е. Моралес и мораль, или Узаконенный грабеж и "незаконная" национализация // Рэспубліка. 2006. 17 мая. С. 7. (Маралес Э.: "индеец племени аймара".)*

**ШЫМАНОВІЧ Ілья** - плывец, нарадзіўся ў Менску, мае званне чэмпіёна свету і іншыя высокія тытулы.

September 30, 1993

Dear Mr. Frantz.

Some of our members, for example, in Rechitsa, Gomel Oblasts, and Kaluga, Russia, are interested in the Blackfoot, including the language.

Hope to stay in touch.

With best regards,

Ales Simakou, BAIS
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

***Letter to Don Frantz (Lethbridge, Alberta) 1993-09-30***

September 30, 1993

(P.S.)
(Smallface Marule)

I am especially interested in greater Pan-Indianism (the Americas and the world, including white 'adopted' Indians and so called "Indianists", the former S.U.)

If you are Blackfoot, this is our first contact.

We are looking forward to hearing from you.

Best wishes.

Sincerely,

Ales Simakou, BAIS
P.O. Box 114
Gomel 246049
Belarus

***Letter to Smallface Marule (Lethbridge) 1993-09-30***

Удзельнічаць у спаборніцтвах па плаванні брасам (breaststroke) на 100 метраў на Алімпіядзе ў Парыжы ад Канады папярэдне быў выбраны як дэбютант Апалон Хес (Apollo Hess), індзеец кайнай (чарнаногі, Kainai, Blood), а ад Беларусі - Ілья Шымановіч, ужо ветэран. У гэтым відзе, у якім фіксаваўся і яго сусветны рэкорд, Шымановіч заняў 10 месца (г.зн. дайшоў толькі да паўфіналу). 22-гадовы Хес заняў 5 месца ў фінальным заплыве эстафеты "мікст", mixed medley, комплекснае плаванне, 4х100 м. 8 месца занялі ў плаванні Аліна Змушко (100 м брасам) і Настасся Шкурдай (200 м на спіне).

Апалон першы алімпіец ад свайго народа кайнай у гісторыі. Ён родам з Летбрыджа (Lethbridge) у Альберце, студэнт University of Lethbridge. Але выглядае так, што ён адарвецца ад свайго роднага горада і племені, каб рабіць спартыўную кар'еру ў Таронта.

У камандзе ЗША не адзначана спартсменаў індзейская паходжання (былі тры карэнныя гавайцы; таксама "Miss Navajo Nation represents nation in 2024 Paris Olympics"), але пішуць пра чатырох або пяці ўдзельніках індзейскага паходжання з Канады. Мы можам назваць дзяўчыну-барца Justina Di Stasio з Norway House Cree Nation і метысаў (Metis) дайвера Margo Erlam і валей-





баліста Fynn McCarthy (цікавы яшчэ сваёй гульнёй за LKPS Lublin).

Усяго паведамляюць пра больш за 50 спартсменаў ад т.зв. карэнных народаў свету. У час з'яўлення на стадыёне членаў зборнай ЗША ў прамой трансляцыі Eurosport з'явіўся чалавек у галаўным уборы прэрый.

У 1993 г. мы адправілі зварот і індывідуальныя лісты ва Універсітэт Летбрыджа па праграме Трохгоддзя Выгодскіх (адначасова - у адным канверце) даследчыкам-індзеяністам індзейскага ж паходжання, знойдзеным па раздрукоўцы з адпаведнай базы, якую даслаў Д. Шампан з Лос-Анджэлеса: гэта Дон Франц (Don Frantz), Лерой Літлбіэр (Leroy Littlebear), Смалфэйс Маруле (Smallface Marule). Першы і апошні з іх дакладна займаюцца праблематыкай чарнаногіх.

Прыёмным сынам Тэры Келі, якая ў Эдмантане рыхтавала для рассылкі матэрыялы па праблеме любіконаў, быў Шон (Patrick Sean Kelly), чарнаногі, студэнт University of Southern California (Filmic Writing Program), які загінуў 22-гадовым у Ціхуане ў 1996 г. У яго быў талент пісьменніка. Мы збіраліся напісаць Тэры ў Лонг-Біч (draft letter to Terri Kelly, addressed to Long Beach, no date in the file, date of file creating 1998-01-23), але ліст так і застаўся ў камп'ютары. Тэры памерла ад раку ў 2014 г.

**Літ.:** (чарнаногія, Blackfoot, Blackfeet)

*2987 Бейкер М. Любовь первая, любовь бурная: роман / пер. с англ.; ред. текста пер. С. А. Когадеева; худ. обл. В. Василь. Мн., 1995.*

*3237 Саймак К. Что может быть проще времени / пер. с англ. Г. Темкина // Terra incognita: (Неизвестная земля) / сост. А. Березнева; худ. оф. Н. Абрамчик. Мн., 1992. С. (3)5-156.*

*7633 Непомнящий С. Саентология: путь к свободе или средство добычи денег? // Биржа информации. 2001. 3 мая. (Рубр.: Социум; индейцы, блэкфут, черноногие.)*

*8869 Брэдберы Р. Пра вандроўкі вечныя і пра Зямлю / пер. з англ. С. Міхальчука // Замежная фантастыка: [творы сучасных пісьменнікаў розных краін] / уклад. і прадм. С. Саладоўнікава і У. Цвяткова; пер. А. Асташонка і інш. Мн., 1990. С. 227-244. ("Або во яшчэ рукапіс, называецца "Індзейцы", тут ён піша пра марсіян: яны - індзейцы космасу, іх выцеснілі і знішчылі, як даўней індзейскія плямёны - чарокаў, іракезаў, чарнаногіх. Выпіце, Боўлтан, выпіце!")*

***Алесь Сімакоў,***
*даследчык беларуска-індзейскіх сувязей.*
***Ales Simakou** (e-mail: baicri@tut.by),*
*researcher of Belarusian-Indian (American Indian, Native American, Amerindian, First Nations) connections.*

***Индейцы, Indianie, Indians, indigenous peoples, indigenas, indios de America y Belarus; Алесь Симаков. Белорусы встречаются с индейцами. [Вып. 111].***

# Свята вуліцы Наваградскай ў Бярозаўцы!

У Бярозаўцы прайшло выдатнае свята, прысвечанае вуліцы Наваградскай!

У праграме мерапрыемства выступілі таленавітыя калектывы Лідчыны, якія падарылі жыхарам незабыўныя музычныя нумары і запальныя танцы. Кожны мог знайсці штосьці па душы: ад народных мелодый да сучасных хітоў!





Акрамя таго, для ўсіх ахвотнікаў былі арганізаваны вясёлыя конкурсы і гульні, дзе кожны змог выявіць свае таленты. Атмасфера радасці і весялосці панавала на працягу ўсяга свята!

***ТК "Культура Лідчыны".***





# Ганараванне камбайнёраў-тысячнікаў

Калектыў Ганчарскага Дома культуры прыняў удзел у віншаванні кіроўцаў і камбайнёраў-тысячнікаў КСУП "Беліца - агра".







*ТК "Культура Лідчыны".*

# Ад маленькага снапа да вялікага ўраджаю!

Народны ансамбль песні і танцу "Лідчанка" Палаца культуры горада Ліды прадставіў новую праграму "Дажынаць - славу гаспадарам жадаць" у КСУП "Доцішкі". Гэтая падзея стала сапраўдным святам ураджаю для перадавікоў сельскагаспадарчай галіны Воранаўскага раёна.





Гледачы з першых нот не маглі стрымліваць апладысменты, бо выступ быў прасякнута атмасферай радасці, падзякі за працу, адчуваннем адзінства і гонару за малую радзіму.

Залаты сноп новага ўраджаю стаў сімвалічным падарункам для кіраўніка творчага калектыва "Лідчанка" Вольгі Сергеевай ад кіраўніка калектыва працаўнікоў КСУП "Доцішкі" Дзяніса Грудзіса.

*ТК "Культура Лідчыны".*

*Рэдактар Станіслаў Вацлававіч Суднік*

*Адрас рэдакцыі:*
231282, г. Ліда, вул. Лётная, 7а.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231282, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* sudnik@list.ru, sejlawiczy@gmail.com

Газета падпісана да друку 19.08.2024 г.

Фармат А-4.
Аб'ём 3 друкаваныя аркушы.

***Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі. Рэдакцыя рукапісы не вяртае.***

**Газета размяшчаецца на сайтах: http://nslowa.by/; http://pawet.net/; http://belkiosk.by/**
*Дазваляецца самастойная раздрукоўка на паперу.*